Е. ПЯСТУН



# У НАС І Ў ІХ




БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА



Е. Г. ПЯСТУН

# У НАС І Ў ІХ

ШТО БАЧЫЛІ ІВАНАЎСКІЯ ЎДАРНІКІ ЗА-ГРАНІЦАЙ






БЕЛАРУСКАЕ
ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК 1931

# З Ь М Е С Т



Галоўлітбел № 890 Тыраж 5000 Зак. № 637

Барысаўская друкарня.



Іванаўскія рабочыя-ўдарнікі ў колькасьці 257 лепшых ударнікаў СССР мелі магчымасьць паехаць на параходзе „Абхазыя“ за-граніцу. Яны пабылі ў Гамбурзе, Неаполе і Станбуле—буйнейшыя гарады трох капіталістычных краін. Вярнуўшыся ў Іванава, яны расказалі аб тым, што ўбачылі ў гэтых краінах. І тое, што яны ўбачылі, цалкам пацьвярджае малюнак сусьветнага экономічнага крызісу і жахлівага становішча рабочых у краінах капіталізму, аб якім партыя бальшавікоў няспынна расказвае рабочым, адзначаючы гніеньне капіталізму і нарастаньне рэволюцыйнай хвалі, якая змые сьвет прыгнечаньня і страшэннай эксплёатацыі.

Нашы ўдарнікі мелі магчымасьць асабіста ўбачыць за-граніцу і параўнаць два сьветы—капіталістычны і СССР. Непасрэдныя нагляданьні нашых ударнікаў зьяўляюцца лепшай ілюстрацыяй для характарыстыкі становішча гэтых двух сьветаў і вырашэньня вынікаў змаганьня—хто—каго.

Кожны месяц прыносіць нам новыя весткі аб крызісе ў капіталістычных краінах, які ўвесь час узмацняецца. У аднэй Амэрыцы лік беспрацоўных дасягнуў да 8 мільёнаў, дзякуючы рознаму скарачэньню вытворчасьці. Гэта—ў Амэрыцы, добрабытам і „росквітам" якім ганарыліся капіталісты і іх лёкаі з лягеру сацыял-здраднікаў.

1930 год даў у капіталістычным сьвеце новае грамаднае зьніжэньне продукцыі ў асноўных галінах у параўнаньні з 1929 г. Зьніжэньне па жалезу: Англія—15 проц., Германія—26 проц., ПАЗШ—21 проц.; па сталі: Англія—28 проц., Германія—28 проц. ПАЗШ —28 проц.; па вугалю: Англія—17 проц. Германія—10 проц., ПАЗШ—12 процантаў. У вогуле зьніжэньне продуцыі за год на 25 проц., а ў СССР за такі-ж пэрыод мы маем наадварот, рост цяжкай прамысловасьці на 40 проц.

Каб зьмякчыць крызіс, буржуазія вядзе наступ на рабочую клясу. Толькі за 6 месяцаў 1930 г. рэальны прыбытак рабочага ў Германіі зьнізіўся на 12 проц. У вугольнай прамысловасьці Англіі заработак рабочых зьнізіўся на 19 проц. Сума зарплаты ў Амэрыцы за год скарацілася на 27 проц.



Сусьветны экономічны крызіс ў сучасны момант, як ніколі, выступае асабліва ярка на фоне росту і пасьпяховага выкананьня пяцігодкі ў СССР.

Раўнаньне двух сыстэм—капіталістычнай, якая гніе, і савецкай,—якая пасьпяхова будуе соцыялізм, мае рашаючае значэньне ў справе рэволюцыянізаваньня рабочых усіх краін.

На 16 зьезьде УсеКП(б) т. Сталін, падводзячы вынікі і параўноўваючы становішча ў краінах капіталу са становішчам у нас у СССР, зрабіў наступнае справаздачнае параўнаньне.

„У іх, у капіталістаў, экономічны крызіс і заняпад вытворчасьці як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі.

У нас у СССР, экономічны ўздым і рост вытворчасьці ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі.

У іх, у капіталістаў, пагоршаньне матэрыяльнага становішча працоўных, зьніжэньне заработнай платы рабочых і рост беспрацоўя.

У нас, у СССР, уздым матэрыяльнага становішча працоўных, павышэньне заработнай платы рабочых і скарачэньне беспрацоўя.

У іх, у капіталістаў, рост забастовак і дэ-

монстрацый, якія вядуць да страт мільёнаў рабочых дзён.

У нас, у СССР, адсутнасьць забастовак і рост працоўнага ўздыму рабочых і сялян, які дае нашаму ладу, мільёны дадатковых рабочых дзён.

У іх, у капіталістаў, абвастрэньне ўнутранага становішча і нарастаньне рэволюцыйнага руху рабочае клясы супроць капіталістычнага рэжыму.

У нас, у СССР, умацаваньне ўнутранага становішча і яднаньне мільённых мас рабочае клясы вакол савецкай улады.

У іх, у капіталістаў, абвастрэньне нацыянальнага пытаньня і рост нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі, у Індо-Кітаі і Індонэзіі, на Філіпінскіх астравох і г. д., які пераходзіць у нацыянальную вайну.

У нас, у СССР, узмацненьне асноў нацыянальнага братэрства, забясьпечаны нацыянальны мір і яднаньне мільённых мас народаў СССР вакол савецкай улады.

У іх, у капіталістаў, замяшаньне і пэрспэктыва далейшага пагоршаньня становішча.

У нас, у СССР, вера ў свае сілы і пэрспэктывы далейшага палепшаньня становішча".

З часу 16 зьезду партыі, калі быў дадзены



гэты аналіз становішча „у нас і ў іх", прайшло ўсяго шэсьць месяцаў. І гэтыя мінулыя шэсьць месяцаў яшчэ больш пацьвердзілі крызіс, які паглыбляецца, і жорсткі заняпад гаспадаркі і матэрыяльнага становішча рабочага за-граніцай, і на супроць, вяўхільны рост у нас.

Калі на 16 зьезьдзе Ўсе КП(б) тав. Сталін адзначыў рэзкае скарачэньне беспрацоўя ў нас, дык ужо ў сьнежні пленум ЦК і ЦКК у пастанове аб народна-гаспадарчым пляне на 1931 г. адзначыў, што „**мы маем ліквідацыю ў асноўным беспрацоўя**".

„Рост народнае гаспадаркі—гаворыцца ў рашэньні сьнежаньскага ЦК і ЦКК—забясьпечыў далейшае павышэньне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцьця працоўных. Агульны лік рабочых і служачых значна перавысіў проектоўкі пяцігадовага пляну. Заработная плата рабочых за 2 гады пяцігодкі ўзрасла на 12 проц. На 7-гадзінны рабочы дзень к канцу другога году пяцігодкі было пераведзена ўжо 45,5 проц. усяго ліку рабочых, што занятыя ў прамысловасьці.

На бесьперапынны вытворчы тыдзень (бесьперапынка) за мінулы час было пераведзена

67 проц. усяго ліку рабочых, што заняты ў прамысловасьці.

У выніку ўсяго гэтага мы маем ліквідацыю ў асноўным беспрацоўя.

Нашы таварышы за-граніцай бачаць гэтую аграмадную розьніцу ў іх і ў нас. У барацьбе за організацыю мас пад сьцягам Комуністычнага інтэрнацыяналу, у барацьбе з меншавікамі, соцыял-фашыстымі, параўнаньне фактаў, якія малююць становішча ў нас і ў іх, зьяўляецца лепшым сродкам для рэволюцыйнага ўздыму рабочых.

Так, напрыклад, заводзкая газэта „Рунд ум дэн Альтэнбэргер Плятц“, якая выходзіць у Германіі, праводзіць яркую паралель паміж капіталістычным і соцыялістычным ладам, апавяшчаючы даныя аб становішчы на буйнейшых германскіх прадпрыемствах—Усеагульнай кампаніі электрычнасьці („АЭГ“), электрычных прадпрыемстваў Сымэнса—і на маскоўскім Электразаводзе.

На бэрлінскім прадпрыетсве „АЭГ“— піша газэта,—

на 1 студзеня 1929 г. было 40 тыс. чал
„ 1 студзеня 1930 г. „ 36 „ „
„ 1 красавіка 1930 г. „ 33 „ „

Праз тры гады—? ? ? ? ? ? ? ? ? ?



На бэрлінскім прадпрыемстве Сымэнса лік рабочых спачатку году зьменшыўся на адну трэцюю частку.

Як гэта назваць?—„Гэта называецца занятапад капіталізму, вынікам рабоўніцкага пляну Юнга“.

Маскоўскі электразавод
Тры гады назад . . . 3.000 рабочых
На жнівень 1930 г. . . 9.000 „
К канцу цяцігодкі . . 30.000 „

А вось гэта называецца соцыялістычным будаўніцтвам, пролетарскай дыктатурай!

Вывад: ратунак рабочай клясы— у комунізьме“.

Заводзкая газэта „Дер Роте Вагон“ прыводзіць даныя аб беспрацоўі ў СССР і прыводзіць параўнаўчыя даныя аб стане беспрацоўя ў Германіі.

„Чэрвень 1929 г.—1.800.000 беспрацоўных у СССР.

1.383.000 беспрацоўных у Германіі.

Чэрвень 1930 г.—900.000 беспрацоўных у СССР.

2.696.000 беспрацоўных у Германіі.

Канец 1930 г.—ніводнага беспрацоўнага ў СССР“.

„Па даных буржуазных экономістаў (зьменшаных), лік беспрацоўных у Германіі дасягне ўзімку 1930—31 г. 4.000.000.

У 1923 г. ў СССР, па першапачатковым варыянтам пяцігодкі, будзе ўцягнута ў вытворчасьць 4.400.000 рабочых. У 1932 г. у Германіі ? ? ?

Савецкі Саюз—адзіная ў сьвеце краіна, якая ня ведае экономічнага крызісу“.

У сувязі з вялікім размахам у росьце прамысловасьці і сельскай гаспадаркі сьнежаньскі пленум ЦК на 1931 г. пастанавіў:

а) устанавіць агульную колькасьць рабочых і служачых на 1931 год у 16 млн. чал. супроць 14 млн. чал. у 1930 годзе;

б) устанавіць рост заработнай платы ў 1931 г. у параўнаньні з 1930 г. для прамысловых рабочых у 6 проц. і рабочых, якія заняты на чыгуначным транспарце, у 8 проц. Адпаведна гадавы фонд заработнай платы на 1931 г. азначыць у 15,3 млрд. руб. супроць 12,5 млрд. руб у 1930 г.;

в) гадавы фонд соцыяльнага страхаваньня рабочых і служачых азначыць у 1931 г. у 2.138 млн. руб. (супроць 1,6 млрд. руб. у 1930 годзе), што перавышае заданьне для апошняга году пяцігодкі (1.950 млн руб.);



г) агульны разьмер фонду палепшаньня быту рабочых азначыць у 1931 г. у 285 млн. руб. супроць 125 млн. руб. у 1930 годзе;

д) асыгнаваньні на ахову працы ў прамысловасьці і транспорце азначыць у 155 млн. р.

е) перавесьці к канцу 31 году на 7-мігадзінны рабочы дзень усіх чыгуначнікаў, ня менш 92 проц. рабочых, якія заняты ў прамысловасьці, плянуемай ВСНГ і 52 проц. рабочых прамысловасьці, плянуемай Народным Камісарыятам Забесьпячэньня;

ж) на пяцідзённы рабочы тыдзень (бесьперапынка) у 1931 годзе перавесьці ўсіх рабочых плянуемай ВСНГ прамысловасьці, за выключэньнем тэкстыльнмй, і 98 проц. рабочых прамысловасьці плянуемай Наркамзабесьпячэньня.

з) укладаньні у жыльлёвае будаўніцтва па ўсіх галінах аграмаджанае народнае гаспадаркі азначыць у 1,1 млрд. руб. супроць 582,5 млн. руб. мінулага году;

і) агульны фонд фінансаваньня па асьвеце, кадрах, навуцы, ахове здароўя і соцзабесьпячэньні азначыць у 6,5 мрд. руб. супроць 5 млрд. 1930 г.

Нідзе ў сьвеце, ні ў аднэй краіне такога

росту матэрыяльнага і культурнага ўзроўню мас няма і ня можа быць, таму што там пануе адміраючы капіталізм, які спрабуе захаваць свае прыбыткі шляхам далейшага пагоршаньня становішча працоўных.

Посьпехі нашай пяцігодкі і бесьперапынны рост матэрыяльнага культурнага ўзроўню працоўных СССР вымушаны прызнаваць нават самыя зьлейшыя нашыя ворагі. Так, віднейшы прадстаўнік ангельскай буржуазіі Лейд Джордж у артыкуле, зьмешчаным у газэце „Нэйс Фрэнс Прэсэ“ ад 20 сьнежня 1930 г., даючы ацэнку значэньню нашай пяцігодкі, прыходзіць да выніку, што „Расія са сваім грамадным насельніцтвам, якое ўяўляе сабою самы прыгожы баявы матэрыял, ператорыцца ў найбагацейшую і самую магутную краіну ва ўсім сьвеце“.

Былы каралеўскі міністр Бэльгіі Эміль Вандэрвэльдэ, правадыр жоўтага інтэрнацыяналу, адзін з самых злосных ворагаў бальшавізму, які пабываў у гэтым годзе ў Маскве і ў інш. гарадох СССР, таксама павінен быў прызнаць, што выкананьне пяцігодкі зрабіла на яго вялізарнае ўражаньне і што нідзе ў сьвеце становішча рабочых не ўзьнята на такі ўзровень, як у СССР.



Сьнежаньскі пленум ЦК і ЦКК, у мэтах далейшага палепшаньня становішча рабочых, устанавіў вялікую праграму па забесьпячэньні гароднінай і мясам і паляпшэньні рабочага забесьпячэньня ў сувязі з работай спажывецкае коопэрацыі. Выкананьне пляну прыгараднае гароднае гаспадаркі спажыўкоопэрацыі ў 300.000 га павінна ў 1931 г. поўнасьцю забясьпечыць насельніцтва гарадоў гароднінай. Адначасова коопэрацыя разгортвае вялікае будаўніцтва малочных фэрм, адкорм сьвіньней і птушкаводніцкія гаспадаркі. Саўгасу трэсту „Жывёлавод“ дадзена заданьне давесьці ў 1931 г. стада рагатай жывёлы да 2.800 тысяч галоў, саўгасу трэсту „Сьвінавод“— да 1.900 тысяч галоў сьвіньней, саўгасам „Аўцавод“ да 9.400 тысяч галоў авечак, саўгасам малочна-масьлянага трэсту 110 тыс. кароў.

Побач з ростам колгасаў і перабудаваньнем сельскай гаспадаркі, побач з ростам сыравіннай базы лёгкай прамысловасьці (бавоўна, лён і інш.) гэтыя мерапрыемствы забясьпечваюць рашучае адхіленьне тых цяжкасьцяй і недахопаў, якія мы адчуваем яшчэ ў сучасны момант.

У справе далейшага палепшаньня рабочага

забесьпячэньня шмат што залежыць ад правільнай організацыі разьмеркаваньня, ад масавай самадзейнасьці і сталага рабочага контролю.

Організацыя зачыненых разьмеркавальнікаў, пераважнае і лепшае забесьпячэньне ўдарнікаў вытворчасьці, організацыя ўзорных сталовак па вопыту маскоўскага заводу „Электраправад“, забесьпячэньне адпаведнымі кадрамі і дапамогай з боку прадпрыемстваў прыгарадных гаспадарак спажыўкоопэрацыі—усё гэта вельмі істотна для далейшага значнага палепшаньня забесьпячэньня рабочых.

Уся сутнасьць у тым, што ўлада ў нашых руках, магчымасьці, якімі аўладае краіна саветаў, дзе ва ўладзе знаходзіцца пролетарыят, не абмежаваны: ад нашых намаганьняў, яднанасьці, вытрымкі і энэргіі ў змаганьні за выкананьне плянаў, якія намечаны—залежыць ўсё, у тым ліку ўмацаваньне абароны СССР, на які вораг вострыць зубы, рыхтуючы напад



## ШТО БАЧЫЛІ ІВАНАЎСКІЯ ЎДАРНІКІ ЗА-ГРАНІЦАЙ

10 лістапада 257 лепшых ударнікаў Савецкага Саюзу прэміяваныя загранічнай экскурсіяй за лепшую работу, на цёплаходзе „Абхазыя“, які нядаўна пабудованы балтыцкім суднабудаўнічым заводам, пакінулі граніцы Савецкага Саюзу. У экскурсіі прынялі ўдзел ударнікі 123 буйнейшых прадпрыемстваў Масквы, Ленінграду, Іванава-Вазьнясенску, Украіны, Уралу, Паўночнага Каўказу, Закаўказзя, Ніжняга-Ноўгараду і Ніжняй Волгі. Гэта экскурсія павінна была паказаць ударнікам жыцьцё рабочых капіталістычных краін, пашырыць гарызонт іх, паказаць як яны ёсьць, праявы экономічнага крызісу ў капіталістычных краінах і на жывых прыкладах продэмонстраваць перавагі савецкага ладу і правільнасьць ацэнкі капіталізму 16 партзьездам.

Экскурсія на цёплаходзе „Абхазыя“ прара-

біла шлях у 8000 *км* вакол Эўропы з Ленінграду ў Адэсу.

Першая астаноўка была ў Гамбурзе.

Нас спаткалі прадстаўнікі савецкай колёніі на чале з савецкім консулам тав. Крумінам і натоўпу германскіх рабочых, якія здалёк віталі нас. Адзін комсамолец прабраўся на цёплаход і за гэта быў арыштаваны паліцыяй і прасядзеў трое сутак. Па афармленьні дакумантаў мытнішкай паліцыяй, мы аглядалі сусьветны порт Гамбург, які пад ударамі эканамічнага крызісу заціх. Яго магутныя пад'ёмныя краны бязьдзейнічаюць. Плывучыя докі стаяць парожнія, няма параходаў. Каля порту доўгая чарга беспрацоўных параходаў, яны ня паляцца, на коміны надзеты брэзэнтавыя чахлы, няма грузаў, няма перавозак. Склады зачынены наглуха. Мёртвая цішыня. Пахне магілай капіталізму.

У Гамбурзе мы аглядзелі судабудаўнічы завод, дзе раней працавала 7 тысяч рабочых, а зараз толькі 900. Раней будавалася ў месяц у сярэднім 4 судны, а зараз толькі адно.

Самы высокі заработак гамбурскага рабочага 120 марак (60 руб.) у месяц, прычым з



гэтай сумы рабочы павінен плаціць падаткі, узносы у больнічную касу, у профсаюз і ад 40 марак і больш за кватэру. Маладыя дзяўчаты і хлопцы пакуль яшчэ не ажэняцца павінны плаціць асобны падатак на нежанатых —10 проц. заработку. У выніку, яму толькі застаецца 30—40 проц. заработку, г. зн. 35—40 марак.

Большасьць рабочых атрымлівае 70—80 марак, моладзь—яшчэ менш.

Мы аглядзелі раёны, дзе жывуць рабочыя і дзе жыве буржуазія. Праходзілі каля добрых будынкаў, раскошных асабнякоў з садкамі і альтанкамі—сьветлыя, чыстыя вуліцы буржуазных кварталаў. Бачылі і чорныя будынкі, брудныя вуліцы, цёмныя кварталы рабочых, абадраных, худых, брудных, галодных жонак—армію беспрацоўных рабочых, якіх у Гамбурзе звыш 150 тыс. чал. Мы бачылі кабальны плян Юнга ў дзеяньні.

Рабочыя групамі спатыкалі нас, вітаючы крыкамі „Рот Фронт", „Няхай жыве сусьветная рэволюцыя". Комсамольцы, комуністы, арганізавана, са сьпевамі рэволюцыйных песень прыходзілі да нашага цёплаходу.

Мы бачылі вялікую колькасьць тавараў,

багата прыбраныя вітрыны магазынаў, але ня бачылі пакупцоў. Рабочыя ня маюць магчымасьці што-небудзь купляць, нават таму рабочаму, які працуе, заработнай платы ледзь хапае на пракорм сям'і.

Экономічны крызіс моцна захапіў Германію.

Наступным пунктам астаноўкі быў вызначаны Неапаль у Італіі.

Да яго мы плылі 9 з паловай сутак. Пры выхадзе з Біскайскае затокі ў акіян было наша морскае хрышчэньне. „Абхазыя" трапіла ў шторм, які даходзіў да 10 балаў, і добра вытрымала яго.

26 лістапада мы былі ў Неаполі (Італія).

Нас спаткалі першы сакратар прадстаўніцтва тав. Левін і Максім Горкі. Тут мы першыраз убачылі маскарадна-разадзетую поліцыю розных масьцей. У фашыцкай Італіі на кожным рагу можна ўбачыць папоў і поліцэйскіх. Горкі нам расказаў, што ў Італіі на кожных 15 чалавек прыпадае адзін поп і два поліцэйскіх.

Праходзілі мы крывымі, вузкімі, бруднымі вуліцамі, бачылі высокія будынкі з маленькімі вокнамі. Праз вуліцы з вакна ў вакно працягнуты вяроўкі, на якіх сушыцца заношаная на палову сатлелая бялізна беднякоў. Дзьвері кватэр у ніжэйшых паверхах зроблены проста на вуліцу, праз адчыненыя дзьверы мы маглі бачыць жахлівую цеснату і бруд. Крыху далей ішлі простыя, шырокія залітыя сьветам, чыстыя вуліцы з асабнякамі сьвятых айцоў і багатыроў. Злосьць брала, гледзячы на чорнарасьнікаў, якія паважна спацыравалі, тлустыя усьміхаючыся на ўсю морду і не зьвяртаючы ніякай увагі на натоўпы бяспрытульных дзяцей і дарослых, якія жабруюць.

Мы былі на фабрыках, якія працуюць. На іх рабочыя зарабляюць ад 16—17 лір (1 руб. 60 кап.—1 руб. 70 кап.) да 30—32 лір у дзень. Жанчына пры роўнай выпрацоўцы атрымлівае на 40 проц. менш, падлётак—на 50 проц. менш. за дарослага пры аднолькавым рабочым дні. Зарплата ніжэй даваеннага на 15 проц. і працягвае зьніжацца, а цэны на продукты павысіліся на 100 проц. Рабочы 7—8 проц. свайго заработку павінен уносіць у касу бесстрахаваньня, прычым соцстрах плаціць беспрацоўнаму 30—40 проц. заработку, а для скарачэньня платы выдача грошай абстаўлена вялікай колькасьцю фармальнасьцяй.

У Італіі ёсьць профсаюзы—гэта фашыцкія

арганізацыі, цалкам падпарадкаваныя фашыцкаму панаваньню. Кіраўніцтва фашыцкіх профсаюзаў назначаецца зьверху—урадам фашыцкай партыі; усе рабочыя, незалежна ад таго, ці члены яны профсаюзу ці не, абавязкова павінны плаціць спэцыяльны падатак на карысьць профсаюзаў.

Рабочым з намі размаўляць забаранялася. Чацьвёра рабочых папрасілі ў паліцыі дазволу паглядзець наш цеплаход. Паліцыя тут-жа іх арыштавала, зьвязяла рукі і накіравала ў турму. Мы былі сьведкамі гэтага.

Нягледзячы на фашыцкі рэжым, нам, рускім, усё-ж такі ўдалося ўбачыць праўдзівы твар рабочага. У аднэй з вузкіх вуліц, дзе не магла ўбачыць паліцыя, пяць рабочых спаткалі нас сьпяваньнем „Інтэрнацыяналу“.

Нарэшце, мы былі ў Турцыі, у Канстантынопалі.

2 сьнежня мы ўвайшлі ў Константынопальскі порт, дзе нас спаткалі прадстаўнікі савецкага паўпрэдзтва. Былі на тэкстыльных фабрыках Турцыі, знаёміліся з умовамі работы турэцкага рабочага, якія нічым не адрозьніваюцца ад умоў, якія мы бачалі ў Германіі і Італіі. На фабрыках—бруд, пыл, духата. Вэнтыляцыі, як правіла, няма. Кваліфікаваны рабочы атрымлівае 2 руб., менш кваліфікаваны—80 коп., жанчыны за тую-ж работу атрымліваюць 60—50 кап., падлеткі і таго менш. Рабочы час—11—12 гадзін. Дробныя цэны павысіліся на—2.000—2 200 проц., турэцкая ліра (рубель) пала ў 8—9 разоў, кватэрная плата ўзрасла ў 30 разоў. Адсюль можна меркаваць аб становішчы рабочага ў Турцыі. На грунце беспрацоўя і голаду моцна распаўсюджана проституцыя.



Усюды, дзе мы былі, становішча аднолькавае —капіталізм гніе, капіталістычная тэхніка адцьвіла. На фабрыках і заводах рабочыя працуюць на дапатопных варштатах. Капіталізм перажывае цяжкі эканамічны крызіс Ён жыўцом гніе і няма надзеі на яго выздараўленьне.

Надыходзіць сусьветная рэвалюцыя.

Будзем налягаць мацней на выкананьне пяцігодкі за чатыры гады.

Вышэй сьцяг ударніцтва!

Удзельнікі заграчнічнай экскурсіі іванаўскія рабочыя і работніцы: Палякоў (будаўнік), Мухін (фабрыка Каралёва), Ваявадзіна, Каралёў (Сасьнеўская), Журава

(НІВМ), М у р ы л а ў, Д з і к а р о ў (Меланжавы комбінат), Я р ш о в а (фабрыка імя Дзяржынскага), Б а р ы н а ў, Б о я р ы н а ў, (завод № 4), Б а р ы с а ў, М і х а й л а в а, П а л е н а ў (Зарадзьдзе), Г о р э в а (фабрыка імя Зіноўева), П я т р о ў (ч.).

**Нікчэмная аплата працы. Дарагоўля**

Тав. Дзікароў (Меланжавы комбінат).

— Калі мы прыехалі ў Гамбург, мімаволі кінуліся ў вочы адзнакі сусьветнага крызісу. У нас у Ленінградзе стаяць у порце параходы, завалена таварамі, а ў Гамбурзе судны стаяць бяз дзеяньня, толькі грузяцца судны, якія стаяць каля складзкіх памяшканьняў савецкага прадстаўніцтва. Спачатку паглядзіш і здаецца, што ўсё танна, удвая танней у параўнаньні з нашымі цэнамі, але калі параўнаць жыцьцё нашых рабочых з жыцьцём рабочых у Германіі—атрымаецца ня вельмі добра. Калі ўзяць сьлёсара, які зарабляе ў нас прыблізна 180 рублёў, ён там зарабляе 90 руб. Што-ж там танней?—Рэчы і прадметы раскошы, розныя забаўкі. Калі ўзяць прадметы першай неабходнасьці—хлеб у Германіі каштуе $12^1/_2$ кап. кілёграм, мяса 65 кап. кілёграм. Рабочы некваліфікаваны атрымлівае каля 2 марак, у дзень. На трыманьне кватэры траціцца ад 35 да 40 проц. заработку. Да таго-ж яшчэ дробныя падаткі, хто зарабляе звыш 100 марак—плаціць 10 проц. вайсковага падатку, калі рабочы нежанаты—плаціць таксама 10 проц. падатку, потым 5 проц. у страхкасу, у профсаюз, так што на ўсе гэтыя ўзносы ў рабочых ідзе каля 50 проц. заработку. У Германіі яшчэ справа стаіць лепш. Калі мы ехалі з Германіі ў Італію і Турцыю, мы як быццам з гары спускаліся—становішча рабочых пагаршаецца.

У Італіі мы наведалі тэкстыльную фабрыку; па абсталяваньні яе можна параўнаць з нашымі старымі фабрыкамі, але ня з новымі. Робяць там цяжкія гатункі: палаткі, брэзэнт, тканіну для адзежы, сурвэткі. Станкі розных сыстэм, ёсьць і Нортропы. Зараз там робяць палаткі ў 2 мэтры шырынёю на 11 станках, сурвэткі на двух станках. Калі ўзяць станкі сыстэмы Нортроп—работа робіцца на 16 адразу. На гэтых станках працаваць цяжка; калі брэзэнт там робяць на 3-х станках, дык у нас у Кохме на 2 станках. Зарплату атрымліваюць падзённа, зьдзельнай аплаты няма. Мужчыны атрымліваюць 1 р. 40 кап., а жанчыны на 40 проц. ніжэй, нягледзячы на тое,

што яны выpабляюць столькі-ж сама, падлеткі атрымліваюць 50 проц., а там іх шмат. Ткацкі падмайстар атрымлівае 1 р. 70 кап. Рабочы склад падыходзіць да складу нашага Меланжавага комбінату—малады. Чым гэта тлумачыцца? Гэта тлумачыцца тым, што ў Італіі адпускоў, як у нас, няма, жанчынам па цяжарнасьці водпуск не даецца—раджай за станком. Рабочыя, прапрацаваўшы 3 гады, карыстаюцца 6-дзённым водпускам, але рабочыя не дажываюць да гэтага тэрміну—іх проста выганяюць з работы, разьлічваюць, таму там вялікае беспрацоўе. На гэтай фабрыцы працавала каля 9 тыс. чал., зараз 4 тысячы.

На фабрыцы каля 80 проц. жанчын, таму, што жаночая праца вельмі выгадная. Жанчына ніякімі правамі не карыстаецца. Пабудаваны дзе-ні-дзе, праўда, дзіцячыя ясьлі на прадпрыемстве, але ў гэтыя ясьлі толькі тая жанчына можа зьмясьціць дзіця, у якой ёсьць згодна закону муж; дзіцё „незаконнанароджанае“ туды не прымаюць, адсюль—простытуцыя, якая квітнее на вуліцах. Калі работніца дзень-два ня вышла на работу ей даюць разьлік. Зараз у Італіі зарплата супроць даваеннай зьнізілася на 15 проц., а цэны вырасьлі на 100 проц. Калі работніца заробіць 15 кап., як яна будзе жыць, калі мяса кілёграм каштуе 90 кап., а хлеб 20 кап. Таму рабочыя харчуюцца дарамі мора—ловяць розныя ракушкі. У іх ёсьць профсаюзы, але на чале іх стаяць фашысты. Забастоўкі там забараняюцца, за гэта пагражае турма ад 3 да 5 год, але ўсё-ж такі за апошні час забастоўкі растуць.



### Таксама „колдагавор“

Есьць там колдагаворы. Паводле гэтых дагавораў рабочыя павінны адпрацаваць 2.400 гадзін. Фактычна існуе 9-гадзінны рабочы дзень, але дзякуючы гэтаму колдагавору даводзіцца працаваць ня 9 гадзін, а гадзін 10-12. У гэтым колдагаворы ёсьць такі пункт, што калі прадпрыемства не працуе па якой небудзь прычыне ня больш 3-х тыдняў, гэтыя 3 тыдні рабочыя павінны адпрацаваць у другі час і таму даводзіцца замест 9 гадзін працаваць 12, не атрымліваючы ніякіх звышурочных. Соцыяльнае страхаваньне пабудавана прыблізна таксама, як у нас да рэволюцыі будаваліся больнічныя касы. У гэтыя больнічныя касы рабочыя адлічаюць ад 5 да 7 проц. заработку. Капіталіст—гаспадар вытворчась-

ці—плоціць 5 проц. і дзяржава 2 проц., але ў выпадку хваробы рабочы атрымлівае 35—45 проц. свайго заработку. Калі рабочы прахварэе 2—3 дні, дык і не зьвязвайся з атрыманьнем платы за гэтыя дні, таму што гэта зьвязана з вялікімі пакутамі, страціш дзень—два.

Мы былі ў Турцыі—таксама на тэкстыльнай фабрыцы. Там яшчэ ніжэйшая ступень. Калі ўзяць у нас становішча год 30—40 таму назад, дык гэтая фабрыка нагадвае сабою той пэрыод. Гаспадар фабрыкі Сур'я-паша, ён-жа дырэктар. Мы задалі яму пытаньне—колькі вы атрымліваеце прыбытку? Гэта, гаворыць, комэрцыйны сакрэт, але дырэктар нашага савецкага банку заявіў, што прыбытак з гэтай фабрыкі выражаецца ў 30 проц. за год.

Пытаемся ў гаспадара, колькі зарабляе рабочы?—Жанчыны 50 кап., а менш, кажа, плаціць ня выгодна, бо нельга жыць. Дзеці працуюць, кажа, з 12 год. У нас была турчанка, якая гаварыла на расійскай мове, мы ў яе распыталіся пра дзяцей, выходзіць, з 10 год яны ўжо працуюць па 12 гадзін. Аб адпачынку дык і гаварыць ня прыходзіцца, ніякіх законаў на гэта для рабочых няма.

Нашы ўражаньні—аб гэтым можна меркаваць па тым, што калі мы паехалі на экскурсію, у нас было каля 50 чалавек беспартыйных, а як толькі мы паглядзелі на тыя прывабнасьці, у нас каля 30 чалавек на параходзе-ж падалі заявы аб уступленьні ў партыю, у тым ліку і нашы іванаўскія ўдарнікі і старыя з 48-гадовым вытворчым стажам. Гэта даводзіць, якое ўражаньне зрабіла на ўдарнікаў паездка за-граніцу. У мяне і наогул ва ўсіх склалася такое ўражаньне, што пасьля прыезду дамоў трэба яшчэ мацней працаваць над выкананьнем пяцігодкі ў 4 гады.

### Становішча жанчыны-работніцы

Тав. Горава (работніца Зіноўеўскай фабрыкі).

—Я трошкі спынюся на жыцьці жанчын. Гэта было ў Гамбурзе. У нас была адна жанчына немка—старшыня ФЗК з тэкстыльнай фабрыкі. Яна першага мая выступіла на мітынгу, спачатку гаварыла аб эканомічных пытаньнях, потым перайшла на палітычныя і за гэта яе ўзялі на заметку, быў суд, яна гаварыла, што яе хутка павінны зьняць з работы.

Работніцы ў Гамбурзе карыстаюцца адпачынкам месяц да радоў і месяц пасьля радоў, а атрымліваюць палавінную зарплату і то толькі члены саюзу. На вуліцах квітнее проституцыя, ходзяць голыя жанчыны.

Комсамольцы адкрыта ходзяць па вуліцах і крычаць „Рот-Фронт". Яны прыходзілі і да нас.

У Італіі былі на фабрыцы. Там да нашага прыезду ў газэце напісалі, што прыяжджаюць расійскія інжынэры. Стараліся нас не дапускаць да рабочых, але ўсёж-такі нашы работніцы давялі, што яны такія-ж работніцы, напрыклад, пральлі прысукалі ніткі, ткачыхі прывязвалі ніткі. Тут чужаземныя работніцы пераканаліся, што перад імі работніцы, а не інжынэры.

На мэханічным заводзе наш столяр пачаў габляваць і рабочыя ўпэўніліся, што перад імі сапраўды рабочыя, а не абываталі-турысты, як аб гэтым пісалі газэты.

Простытуцыя тут разьвіта яшчэ больш чым у Германіі.

У Неаполі непоўналетніх заганяюць на работу: бацькі аддаюць іх у вытворчасьць і яны там жывуць да 22 год, калі яны ідуць на пагулянку, дык іх абкружае атрад манашак.

Комуністка з Гамбургу расказвала, што мужы часта напіваюцца, б'юць жонак, а пасьля кожны тыдзень жанчын выклікае поп, пытае аб усім жыцьці і такім чынам дазнаецца аб палітычным пераконаньні рабочых.



### Халупы-сабачнікі і завод

Т а в. Р а д з е ў (Сасьнеўская фабрыка).
—Дапоўню некалькі слоў аб Гамбурзе. Перш чым увайсьці ў завод, мы былі пераконаны, што гэты завод абсталяваны паводле апошняга слова тэхнікі, але абсталяваньне, як выявілася, старое і зношанае процантаў на 80. Станкі розных штампаў.

Трэба сказаць і аб добрых баках заводу: мы былі на складах—там поўны парадак—жалеза, болт, заклёпка на сваім мейсцы. Бязладзьдзе, якое ў нас на шэрагу фабрык назіраецца, няма, там паўнейшая картачная сыстэма, калі рабочы прыходзіць за матэрыялам, яму капацца не даводзіцца. На заводзе таксама ня відаць ніякай кінутай гайкі, паўнейшая чыстата. Праходзілі і праз заводзкі двор і той чысты, за намі ідзе рабочы і раўнае нашы сьляды.

Адносна зарплаты. Зарплату высока-кваліфікаваны рабочы атрымлівае 50 марак ў тыдзень, інжынэр стары, які мае 25-гадовы стаж, 400 марак, малады інжынэр—200—250 марак.

Калі мы былі на заводзе, якраз было 12 гадзін. Мы запыталі, куды пойдуць рабочыя?—У сталоўку. Нас не хацелі пускаць у

сталоўку, але інжынэр, усёж-такі пусьціў паглядзець, што ядуць рабочыя. Абед 50 пфенігаў (капеек 30), сталоўка чысьценькая, але абед—трава і вада, хлеба няма, на другое—бульба з травою і ўвесь абед. Інжынэрам—за 70 кап. лепшы абед.

Калі мы пачалі садзіцца на параход, нам кінуліся ў вочы домікі ў выглядзе нашых будак, што для сабак. Пытаемся—што гэта такое? А гэта рабочыя дачы. Мы вельмі зьдзівіліся, што сабою ўяўляюць гэтыя рабочыя дачы: некалькі кв. мэтраў зямлі. Я тут з адным немцам вёў гутарку. Ен гаворыць—урад знайшоў патрэбным аддаць гэтую зямлю, каб адцягнуць рабочых ад палітычнага жыцьця, каб рабочы, канчаючы работу на прадпрыемстве, складаў свой інструмант у каляску, браў дзяцей і ішоу на дачу, каб на 4—5 мэтрах капацца. Я яшчэ задаў пытаньне: а чаму тут печы? А таму, гаворыць, што некаторыя рабочыя застаюцца зімаваць. Кватэрная плата 9 марак, прыкладна 4 руб. 50 кап. за кв. мэтр, але газ, вада, вугаль за асобную плату. Калі вы спозьніцеся ўнесьці кватэрную плату, гаспадар тут-жа выганяе і хатні скарб выкідае на вуліцу. Мне давялося гаварыць з адным рабочым, я яму аддаў рэштку свайго



(гэта быў партовы рабочы), я
сьнеданьня (гэта быў партовы рабочы), я пацікавіўся—колькі часу ён носіць гарнітур, гарнітур увесь у латках,—пяць гадоў! Ен з прагнасьцю ўзяў сьнеданьне і панёс да дому.

Калі мы хадзілі ў рабочыя кварталы, нас рабочыя сустракалі са сьпевамі. Аб'яжджалі мы і прасторныя буржуазныя вілы. Калі мы садзіліся ў аўтобус, нас абкружыў натоўп рабочых, але ў хуткім часе зьявілася паліцыя і нам нельга было затрымлівацца.

Мы думалі, што ў Неаполі ўжываюць заграничную тэхніку. Я паглядзеў абсталяваньне, там наразаюць розныя болцікі і шрубкі ўручную, я лічу, што дзе-небудзь павінен быць аўтаматычны станок, але яго няма. Цяжка рабочаму там. Ва ўсякую мінуту выкідаюць яго на вуліцу: рабочыя гутараць з намі, вітаюць, а адміністрацыя пагражае ім пальцам, і за кожную такую гутарку рабочы звальняецца з працы.

Пра Турцыю. Тэкстыльная ф-ка робіць шарсьцяную тканіну, бярэ шэрсьць з Англіі, уток з Італіі. Мы задавалі пытаньне аб рабочым страхаваньні. Выявілася, што, калі рабочы хварэе нядоўга—плацяць, калі звыш месяцу—ён павінен адпрацаваць гэтыя грошы. Ахова працы, тэхніка бясьпечнасьці па-

стаўлена дрэнна. Выцяжнога вэнтылятару няма, загародаў ад пасоў няма, рабочы дзень 12 гадзін, ядуць рабочыя ў корпусе, у часе працы, сталовак няма. Дзеці ад 10 і звыш год працуюць 12 гадзін, аплата 45—50 кап.

### Парожнія трамваі

Тав. Мухін (фабрыка імя Каралёва).

— Пасьля прыезду ў Гамбург у нас стаяла пытаньне не аб тым, каб паглядзець найбольш цікавыя месцы гораду, а аб тым,—ці дазволяць нам пайсьці на фабрыку ці завод паглядзець умовы жыцьця рабочых.

Калі мы выйшлі на вуліцу Гамбургу, дык убачылі рух трамваеў, а пасажыраў мала. Жыцьцё гораду пачынаецца ў 7—8 гадзін вечару, на працягу дню ці тады, калі рабочыя зьвяртаюцца з працы, трамваі парожнія—ня так, як у нас. Значыцца, у рабочых грошай няма, ня кажучы ўжо аб беспрацоўных. Я зрабіў вывад, што Гамбург—гэта горад машын, ходзяць трамваі, праведзена электрычная чыгунка, паветраная, але рабочыя гэтым не карыстаюцца. У доках на заводзкім двары і на вуліцах абсолютная чыстата. Тут нам трэба павучыцца ў немцаў.

Адносна Неаполю. Тут нас спаткалі ня так,



як у Германіі. У Неаполі і наогул у Італіі компартыя загнана ў падпольле, але рабочым хацелася на нас паглядзець. Нас у Гамбурзе спаткалі нашы гандлёвыя прадстаўнікі і партовыя рабочыя, але калі мы падплывалі да Неаполю, тут ня было ніводнага чалавека на прыстані за выключэньнем паліцыі ўсіх рангаў, усіх колераў. Рабочых-жа, нават партовых, ня было, яны былі далёка. І так працягвалася на працягу $2^1/_2$ сутак. Нажаль, нас ня мог спаткаць наш паўпрэд у Італіі тав. Курскі, ён быў заняты важнымі справамі, спаткалі нас яго намесьнік, сакратар і сям'я Максіма Горкага. Апошні і зьяўляўся нашым правадніком. Калі спыніўся наш карабель, намесьнік тав. Курскага зьвярнуўся да нас з прывітальнай прамовай і паднёс рапорт,—якія нашы адносіны з Італіяй, якое мы становішча займаем на рынку, які стан, чым мы гандлюем. На вагонабудаўнічы і аэроплянны заводы нас пусьцілі, але рабочым сказалі, што гэта прыехалі рускія інжынэры. Калі мы ўваходзілі ў вароты, нас было чалавек з 300 з журналістамі і камандай цёплаходу. Сярод нас былі старыя і маладыя дзяўчаты—ну якія-ж гэта інжынэры. Пазьней мы давялі работай, што мы рабочыя, а ня інжы-

нэры. Мы зрабілі змычку з рабочымі, ім ня верылася, каб рабочыя ехалі на экскурсію за граніцу, у іх ня было экскурсій ня толькі з гораду ў горад, але і з фабрыкі на фабрыку.

Я, асабіста, сваімі вачыма бачыў два абураючых факты: маладая работніца выбегла з-за свайго станка, глядзіць на нас, але тут падыходзіць да яе старая работніца, штосьці сказала ёй і яны пайшлі ад нас. Другі факт: адна маладая работніца італьянка пачала размаўляць з нашай работніцай, але тут падбягае старшая і дае ёй дзьве аплявухі. Яна пайшла за станок. Калі мы ехалі ў Неаполь, яшчэ перад нашым прыездам газэты ў Германіі расьпісалі наш прыезд так, што гэта разьяжджае тэхнічная каманда. Нас выявілі ледзь ня як штрэйкбрэхераў. Наогул стараліся перад тварам чужаземных рабочых нас компромэнтаваць. Ім ня выгодна было, каб ведалі, што мы рабочыя.

### Палацы і сутарэньні.

Т а в. Зі н о ў е ў (фабрыка Зарадзьдзе) — Гамбург—прамысловы горад ў Германіі і мае каля паўтары мільёнаў жыхароў. Тут ёсьць тэкстыльная прамысловасьць, судабудаўнічая і інш. Беспрацоўных налічваецца



да 120.000, 15.000 матросаў, 4.000 інжынэраў а астатнія рабочыя з прадпрыемстваў.

Мы бачылі буржуазнае жыцьцё і ў процілеглым канцы бачылі жыцьцё рабочых. Праходзячы па Гамбурзе мы бачылі самыя грандыёзныя будынкі, усялякія будоўлі, якія створаны рукамі рабочых для буржуазіі. Гэтыя будынкі ўключаюць у сябе ўсе выгоды для буржуазіі. У сутарэньні гэтых самых грандыёзных будынкаў туліцца рабочая кляса, якая абкружана паліцыяй розных сартоў. Буржуазія абкружыла сябе тайнымі агентамі і папамі. У Італіі на кожных 15 жыхароў прыходзіцца адзін поп, у дадатак да гэтага, паліцыя ўсялякіх сартоў і агенты, значыцца, ледзь не на кожнага рабочага прыходзіцца шпіён. У такіх рамках нашай рабочай клясе даводзіцца весьці змаганьне з капіталістычным ладам. Але-ж усё такі, нягледзячы на гэта, рабочая кляса змагаецца.

Праходзячы па рабочых кварталах мы бачылі гідасьці, аб якіх расказвалі нам рабочыя. Цяпер мы ўласнымі вачыма пераканаліся, што рабочыя ўсіх капіталістычных краін знаходзяцца ў шмат разоў горшых умовах, чым рабочыя СССР. Мы гутарылі з рабочымі ў Гамбурзе і Італіі. Яны ўсё пыталіся:

як мы жывём у Расіі. Мы расказваем, а яны ня вераць. Яны кажуць: „Мы па сваіх газэтах бачым, што ў вас развал і ніякага будаўніцтва. У сувязі з працэсам прампартыі—кажуць яны—у вас там шкодніцтва, а няма будаўніцтва і толькі комуністы выдумляюць, што ідзе будаўніцтва“. З гэтага відаць, што рабочыя Італіі ведаюць аб нашым будаўніцтве вельмі дрэнна і ў цёмным сьвятле, бо загранічны друк асьвятляе становішча зусім ня так. Мы павінны організаваць сувязь з загранічнымі рабочымі, каб яны ведалі праўду аб нашым будаўніцтве. Загранічны друк піша пра СССР ўсякія нябыліцы. Мы дужа сьмяяліся, калі прачыталі ў белагвардзейскай газэце, што Сталін, абкружаны комуністамі, вядзе лінію на націск рабочае клясы, а Варашылаў са сваёй Чырвонай арміяй абараняе рабочых, што паміж Сталіным і Варашылавым адбываецца змаганьне. Усюды і ў Маскве—паўстаньні і да т. п. Вось якія байкі расказваюць пра нас у буржуазных краінах.

### Берагчы машыны

— Наша экскурсія навочна ўбачыла жыцьцё рабочае клясы капіталістычных краін. У



Гамбурзе на заводзе машыны ўсё старыя, але на гэтых старых машынах рабочыя, дзякуючы буржуазнаму націску, выконваюць заданьні. На гэты факт трэба зьвярнуць увагу. Мы,—кожны рабочы, ведаем, што мы гаспадары сваёй працы і вытворчасьці, але ўсё такі навучыцца за граніцай, асабліва ў Германіі, ёсьць чаму. У Германіі наглядаюцца беражлівыя адносіны не да свайго ўласнага, а да капіталістычнага, а ў нас ёсьць каштоўныя матэрыялы, якія валяюцца на фабрыцы, і мы праходзім міма, а там не валяецца аніводнай шрубкі, нават стружкі. Токар точыць, а тут-ж падыходзіць рабочы, замятае стружкі і звальвае ў адно месца. Мы толькі нядаўна пачалі падбіраць гэтыя стружкі, а бывала яны валяліся пад нагамі.

Нам не давялося ахапіць сялянскага руху, але, праяжджаючы міма мы бачылі, як адносіцца германскі народ да захаваньня каштоўнасьці сялянскай гаспадаркі. Ня ўбачыш, каб у селяніна валялася якая небудзь трэсачка, зямля там—цэннасьць, няма выпадкаў каб пуставаў які небудзь вучастак зямлі, ўсё засаджана добрымі дрэўцамі. Там не спаткаеш таго, як, напрыклад, у нас у Іванаве: робяць дрэванасаджэньні ўвосень,

а ўвесну пойдзеш—няма ні дрэўца—ўсё паламана. Тут самі рабочыя культурна выхаваны і на гэта трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу. Там ніводнае дзіцё, ніводны дарослы недатыкаецца да дрэва. Мы праяжджалі каля апэльсінных і цытрыновых садоў—ня было выпадку, каб хоць адно дзіцё ўзяло апэльсін. Гэта каштоўны матэрыял для таго, каб і нам культурна падыйсьці да выхаваньня нашых дзяцей, каб каштоўнасьць працы рабочага была захавана.

### Максім Горкі

Вялікае ўражаньне ў нас засталося пры спатканьні з Максімам Горкім. Ён нас спаткаў па-таварыску. Мы далі ацэнку нашаму будаўніцтву і папрасілі яго апісаць жыцьцё рабочых і буржуазіі ў Італіі. Ён, калі пазнаў, што мы ўдарнікі, сказаў:—я не магу вас ацаніць, але скажу вам адно, што вы, ударнікі, у СССР, уяўляеце сабою лепшых рабочых савецкай краіны. У асобе нашых ударнікаў ён наказваў перадаць прывітаньне ўсім нашым рабочым. Праведзены літаратурны вечар і гутарка з Максімам Горкім. Калі мы расказалі аб сваёй рабоце, ён сябе раўнаваў да рабочых-ўдарнікаў. Мы прасілі-б залічыць Максіма



Горкага ў лік ударнікаў СССР. Ён бачыць правільны шлях, паказаны комуністычнай партыяй. Вечар, які мы правялі з Максімам Горкім, мы ніколі не забудзем. Максім Горкі ня мог з намі размаўляць бяз сьлёз. Я—гаворыць,—не магу утрымацца, вочы ў мяне на мокрым месцы.

Максім Горкі вельмі добра адзываўся аб нашых пролетарскіх пісьменьніках. Цяпер. сказаў ён, пісьменікі пішуць аб тым, што робіцца кожны дзень, яны апісваюць, што робіць рабочы і селянін і што павінен рабіць. Ён цэніць, што пролетарскія пісьменьнікі сапраўды ахапляюць тое жыцьцё, якое адбываецца перад намі, што яны знаходзяцца ў гушчы будаўніцтва СССР.

Цяпер скажу адносна прыёму нас нашымі поўпрэдамі. Сярод нас было пяць чалавек беспартыйных і мне часта даводзілася гутарыць са сваімі таварышамі. Сярод адсталых слаёў рабочых існуюць забабоны, што нашы заграпічныя поўпрэды—гэта „высокія" чыноўнікі, з якімі простаму рабочаму размаўляць цяжка. Але калі нашую групу спаткалі поўпрэды, мы ўбачылі, што яны ніяк ня могуць нагадваць сабою „міністраў". Гэта тыя-ж рабочыя. Іх гутарка паказала, што ў нас на гэтых пастох пастаўлены правільныя людзі,

якія ніколі ня будуць адарваны ад рабочых мас. Вось, што мы вынесьлі з нашай экскурсіі

### Трэба разьвіць савецкі турызм

— Мне хочацца пагаварыць аб таварыстве турыстаў, якое організавала нашу паездку для атрыманьня каштоўнага матэрыялу, з якім мы пазнаёмім рабочых. Наша таварыства турызму пастаўлена ў СССР даволі кепска, асабліва ў Іванава-Вазьнясенску. Трэба ў самы бліжэйшы час так організаваць гэта таварыства, каб мы, ўдарнікі, працавалі над гэтай справай, каб кожны ўдарнік ведаў ня толькі жыцьцё Іванава-Вазьнясенску, а жыцьцё ўсяго СССР. Гэта трэба праводзіць, а турысцкаму таварыству трэба давесьці каштоўны матэрыял да рабочых.

Калі мы ўвайшлі на наш цеплаход, нас зьдзівіла раскоша, але не буржуазнага смаку, а іменна тая выгода да якой мы ня прывыклі. Спачатку мы прышлі да такой думкі, што мы яе не захаваем.

Бо-ж, не сакрэт, што кожная добрая рэч, зробленая ў СССР, або кожнае добрае памяшканьне, ў якое пускаюць рабочую моладзь ад станка — мы захаваць ня можам, у нас ёсьць звыкласьць падрапаць. Я сумняваўся, што наўрад ці вытрымае наш цеплаход. Але дзякуючы гаспадараньню капітана і сьвядомасьці ўдарнікаў мы здолелі цэннасьць параходу захаваць, за што мы атрымалі падзяку ад капітана.

### Мы бачылі велізарны рэволюцыянізуючы ўплыў СССР

Тав. Вігалок (Масква)

— Усюды мы наглядалі рэволюцыйныя настроі рабочае клясы. У Гамбурзе, дзе вялікі ўплыў комуністычнай партыі, дзе жывы лёзунгі саюзу чырвоных франтавікоў, мы нязьменна адчувалі бушуючую рэволюцыйную атмосфэру. Усюды на вуліцах, бачачы нас рабочыя, якія праходзілі, гарадзкая бедната віталі лёзунгамі „Рот Фронт". Разы два мы былі напярэдадні стыхійнай дэмонстрацыі ў гонар нас і толькі дзякуючы таму, што мы самі прымалі захады да папярэджаньня дэмонстрацыі, шпарка пакідаючы пляцы, куды бачачы нас зыходзіўся народ, паліцыя была пазбаўлена ад дадатковых няпрыемнасьцяй, зьвязаных з нашым прабываньнем за-граніцай.

Нават у прыдушанай фашыцкім рэжымам Італіі, дзе нелегальная комуністычная партыя,

дзе тысячы змагароў рабочае клясы томяцца, гніюць на катаржных астравох, дзе забаронены вольныя профсаюзы, караюцца забастоўкі, мы бачылі знакі сымпатыі, сяброўскія прывітаньні з боку італьянскіх рабочых.

Мы пераканаліся ў вялізарным рэволюцыянізуючым уплыве Савецкага Саюзу. Праз мора паклёпаў, якія распаўсюджвае буржуазія і яе агэнты сацыял-фашысты, прасочваецца сапраўдная пролетарская праўда пра нас, пра наша жыцьцё. Рабочыя з прагнасьцю лавілі ад нас весткі пра нашы посьпехі, пра ажыцьцяўленьне нашага пяцігадовага пляну. Мы не забудземся радасных твараў нашых таварышоў, рабочых капіталістычных краін, калі расказалі аб тым, што ў нас няма беспрацоўя, аб тым, як мы пасьпяхова ажыцьцяўляем наш лёзунг „пяцігодка—у чатыры гады“.

Мы былі ня доўга за-граніцай, але і гэтага тэрміну аказалася даволі, каб бачыць тое прадоньне, якое аддзяляе нас, краіну пролетарскай дыктатуры, ад капіталістычнага сьвету. Гулкае радаснае ўра, якое раздалося на цеплаходзе, калі мы ўбачылі савецкія берагі пад'яжджаючы да Адэсы, адбівала агульнае жаданьне экскурсіі адчуць хутчэй пад нагамі глебу нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны,



увайсьці пасьля месячнага перапынку ў будні соцыялістычнага будаваньня. Усё, што мы бачылі, якраз, пераканаўча, лепш кніжак і газэт паказала нам гніеньне капіталізму, бяздоньне соцыяльных супярэчнасьцяй у яго сыстэме, уздым рабочага руху. На першым-жа сходзе сумесна з адэскімі рабочымі, зробленым у СССР, ударнікі цеплаходу „Абхазыя“ далі прысягу, далі бальшавіцкі адказ на ўсё тое, што яны бачылі ў капіталістычных краінах.

Яшчэ цьвярдзей праводзіць генэральную лінію нашай партыі, даваць рашучы адпор усякім спробам пахіснуць яе кіраўніцтва.

Яшчэ больш упарта змагацца за перавыкананьне прамфінпляну.

Умацоўваць ударны рух—мэтод соцыялістычнага будаўніцтва, нявычарпальная крыніца актыўнасьці і ініцыятывы мас рабочае клясы.

Быць пільнымі ў адносінах клясавых ворагаў—кулакоў, шкоднікаў, інтэрвэнтаў і іх агентаў—опозыцыянэраў усіх колераў: правых і „левых“ ухілістаў, двурушнікаў-блёкіроўшчыкаў.

## НЯ СУМУЮЧЫЯ ТУРЫСТЫ, А САВЕЦКІЯ ЎДАРНІКІ

Сам факт паездкі ў экскурсію за-граніцу вялікае колькасьці рабочых зьяўляецца паказальнікам выключнага становішча рабочых у савецкай краіне.

У капіталістычных краінах такія вандраваньні могуць рабіць толькі прадстаўнікі буржуазіі, гэта здабытак сытай і сумуючай капіталістычнай вяршынкі. Рабочыя ў буржуазных краінах і марыць ня могуць ехаць на экскурсію ў іншыя краіны, нават з гораду ў горад.

Паездкі нашых рабочых на месца буйнейшых будаўніцтваў па гарадох і рэспубліках СССР шырока разьвіты. Гэтыя паездкі трэба практыкаваць яшчэ больш, адпраўляючы на такія экскурсіі рабочых ударнікаў ў выглядзе прэмій за лепшую работу.

У паездках за-граніцу мы вельмі абмежаваны перш за ўсё таму, што капіталісты ня пускаюць савецкіх рабочых, ведаючы, які



грамадны рэвалюцыянізуючы ўплыў аказвае на працоўных у краінах капіталу адно зьяўленьне рабочых з СССР. Праўда аб СССР няпераносна для буржуазіі, якая ўзводзіць паклепы, каб схаваць посьпехі краіны саветаў, якая скінула ўладу капіталістаў.

Тым большую каштоўнасьць ўяўляе паездка першай партыі ўдарнікаў, якія прывезьлі нам жывыя ўражаньні аб жыцьці рабочых у краінах капіталізму.

Мы павінны скарыстаць самым шырокім чынам іншыя формы інтэрнацыянальнай сувязі: заключэньне дагавораў на сацыялістычнае спаборніцтва нашых фабрык з загранічнымі, перапіску і сталую інформацыю аб ходзе змаганьня ў нас—за пяцігодку, прамфінплян, колектывізацыю, у іх—аб падрыхтоўцы да рэволюцыйнага паўстаньня, да стачкі, змаганьня з соцыял-фашыстамі.

Кожная дэлегацыя, якая прыяжджае да нас з за-граніцы, павінна быць скарыстана для замацаваньня нашых інтэрнацыянальны сувязяй. Для гэтай мэты павінна служы работа ячэек МОПР'у, якія далёка ня ўсюд прыцягваюць належную ўвагу рабочых прадпрыемстве.

Няхай паездка нашых ударнікаў за-гра

цай паслужыць новым рычагом для інтэрнацыянальнага выхаваньня мас і замацаваньня міжнароднай пролетерскай сувязі.

### „Патрабуем хлеба і работы“

Нашы ўдарнікі былі ў Гамбурзе і бачылі голад і беспрацоўе сваімі вачыма. 24 сьнежня ў калядныя дні германская компартыя організавала паход беспрацоўных у Гамбурзе.

На працягу ўсяго дня ў розных частках гораду адбываліся дэмонстрацыі беспрацоўных. Дэмонстранты ў адзін голас крычалі: „Што ёсьць у беспрацоўных?—Голад. Чаго патрабуюць беспрацоўныя?—Работы і хлеба“.

У адказ на шкодніцтва і процэс прампартыі адгукнуліся рабочыя усіх краін. На сходзе маракоў у Гамбурзе прынята наступная рэзолюцыя, якая характарызуе адносіны рабочых да СССР, які зьяўляецца бацькаўшчынай для рабочых ўсіх краін.

### Маракі Гамбургу не дапусьцяць ваенных перавозак супроць СССР

„Маракі Гамбургу заяўляюць самы рэзкі протэст супроць шкодніцтва ў Савецкім Саюзе. Мы маракі, абяцаемся мобілізаваць усе сілы для абароны Савецкага Саюзу. Нашы сродкі—спыненьне ўсіх ваенных перавозак супроць СССР. Мы будзем ва ўсіх краінах пропагандаваць дасягненьні Савецкага Саюзу.

„Соцыялістычным газэтам, якія бяруць пад сваю абарону шкоднікаў контрэволюцыянэраў і робяць паклёп на пролетарскую дзяржаву і яе ўстановы, маракі выражаюць сваю пролетарскую пагарду.

Няхай жыве змаганьне ўсіх прыгнечаных!

Няхай жыве Савецкі Саюз!“

Мы закончым словамі т. Сталіна на 16 зьезьдзе УсеКП(б):

### Аб чым гавораць усе гэтыя факты

Аб тым, што стабілізацыі капіталізму прыходзіць канец.

Аб тым, што ўздым рэволюцыйнага руху мас будзе нарастаць з новай сілай.

Аб тым, што сусьветны экономічны крызіс будзе перарастаць у радзе краін у крызіс політычны.

Гэта значыць, па-першае, што буржуазія будзе шукаць выхаду са становішча ў далейшай

фашызацыі ў абсягу ўнутранай палітыкі, скарыстоўваючы для гэтага ўсе рэакцыйныя сілы, у тым ліку і сацыял-дэмократыю.

Гэта значыць—,па-другое, што буржуазія будзе шукаць выхаду ў новай імпэрыялістычнай вайне і інтэрвэнцыі ў абсягу зьнешняй палітыкі.

Гэта значыць, нарэшце, што пролетарыят, змагаючыся з капіталістычнай эксплёатацыяй і ваеннай небясьпекай, будзе шукаць выхаду ў рэволюцыі.